Цана асобнага нумару 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 60 (111). Вільня, Субота 13 Жніўня 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Школьны год.

Незабаўна пачынаецца новы школьны год. Як у папярэднія гады, так і сёлета ў дужа сумных абставінах прыходзіцца спатыкаць пачатак школьнага году. Школьнае ўзгадаваньне дзяцей мае вялізарнае значэньне ў гісторыі кожнага народу і затым нам, Беларусам - незалежнікам, якія-б хацелі бачыць толькі сьветлыя старонкі ў гісторыі Беларускага Народу, гэтае школьнае пытаньне зьяўляецца адной з найгалаўнейшых задач.

Калі ў кожнай галіне беларускага жыцьця ў Заходняе Беларусі, з году ў год, мы бачым вялікі поступ, калі ўсюды здабываем новыя лепшыя пазыцыі, дык у школьным пытаньні мы ня толькі не пасоўваемся ў перад, а выразна варачаемся назад. Досіць прыпомніць даныя аб беларускіх пачатковых школах, каб пераканацца ў праўдзівасьці вышэй зьмешчанага сказу. У 1922 годзе ў Заходняе Беларусі істнавала каля 400 пачатковых беларускіх школ. З моманту далучэньня да Польшчы г. зв. Сярэдняе Літвы пайшла шыбкая ўрадовая ліквідацыя гэтых школ, так што ў 1924 годзе асталося іх толькі 23-27. З увядзеньнем закону, пад назовам языковай школьнай уставы, і іншыя апошнія беларускія школы былі польскімі ўладамі ператворанымі ў двуязычныя, а часткова зусім зьліквідаваны. Асталіся толькі дзьве школы: адна ў Вільні, другая ў Горадні, якія фармальна лічацца яшчэ беларускімі. Таксама стаіць справа і з прыватным школьніцтвам. У мінулым школьным годзе на ўсю Заходнюю Беларусь істнавалі толькі дзьве прыватныя беларускія школы Беларускага Інстытуту Гаспадаркі Культуры; на болей школ, школьныя ўлады не далі дазволу.

Аднак замест беларускіх школ польскія ўлады накідаюць нам свае шовіністычныя польскія школы. Беларускае насяленьне вельмі няпрыхільна адносіцца да навучаньня дзяцей у польскіх школах і толькі г. зв. школьны прымус з пагрозай арышту і грашовых штрафаў змушае сялян пасылаць сваіх дзяцей у польскія школы на „навуку“. Але гэтая „навука“ нашаму народу вельмі дорага абходзіцца, бо плацім за яе цемрай нашага будучага пакаленьня. Вядомая рэч, што беларускае дзіця ў польскае школе ніяк ня можа прылажыцца да „навукі“. Час перабываньня ў школе дзеці лічаць за нейкую кару, бо вучыцель зварачваецца да іх у незразумелай мове, дзеці ня могуць у чужой мове выказаць поступу ў навуцы і вучыцель пачынае нэрвавацца і, часта густа, тасаваць фізычныя кары. Гэты апошні сродак яшчэ больш зьнеахвочвае дзяцей да навукі і затым год праходзе без ніякіх рэальных вынікаў. Такім чынам, праходзе дзіцячы школьны век і дзіця пакідае польскую школу амаль што не анальфабэтам (неграматным).

Вось пры якіх сумных абставінах надыходзе новы школьны год. Гэтых некалькі слоў не хапае каб зусім падрабязна забразаваць нашае цяжкое палажэньне ў школьным пытаньні ў Заходняе Беларусі. Цэлы рад рэзалюцыяў, вынесеных на апошняй канфэрэнцыі Беларускага Сялянскага Саюзу аб школьных справах, якраз пацьвярждае той жудасны стан, у якім мы знаходзімся. Аднак самі рэзалюцыі не прынясуць нам папраўы, бо польская ўлада ня лічыцца з голасам беларускага сялянства, бо наскрозь буржуазны польскі ўрад ідзе па лініі палянізацыі беларускіх зямель. Але гэтае палянізацыі, усімі сіламі нам трэба процістаівіцца. Вынікі навучаньня беларускіх дзяцей у польскіх школах, гавораць аб тым, што палянізацыя зусім не пасоўваецца паперад. Аднак гэты адпор на палянізацыю ня можам аплачваць цемрай — анальфабэтызмам. Найлепшым адпорам на палянізацыю нашых зямель павінна быць беларуская асьвета і ўзгадаваньне дзяцей у беларускай культуры. Ня маючы сваіх школ, вельмі трудна даць дзецям беларускую асьвету, аднак і без школ, першыя пачаткі беларускага ўзгадаваньня, можна даць дзецям дома. Вось дзеля гэтага, кожны бацька, які хоча шчасьлівай будучыны для свайго дзіцяці павінен паклапаціцца аб беларускай хатняй асьвеце для свайго дзіцяці. Калі сам граматны, дык пасьля школьных гадзін, павінен завясьці, у сябе дома, яшчэ адну гадзіну навукі беларускае мовы і вучыць сваіх дзяцей чытаць і пісаць пабеларуску. Калі ў вёсцы ёсьць які інтэлігент Беларус, то трэба прасіць яго заняцца навучаньнем дзяцей прыватна, у хаце кожнага гаспадара. Такім чынам, побач са школьнай навукай, якая нічога рэальнага нам ня прыносе, будзе адбывацца беларускае хатняе навучаньне з вялікай карысьцяй, як для саміх дзяцей, так для долі Беларускага Народу.

Незалежна ад гэтага спосабу навучаньня, новыя валасныя рады павінны таксама ўзяцца за асьвету ў роднае беларускае мове і выносіць пастановы аб адчыняньні беларускіх школ, і асыгноўваньні сум толькі на беларускія школы. Незалежна ад усей акцыі, маючай на мэце хоць частковую паправу ў справе беларускае асьветы, не павінны мы закідаць законнага дамаганьня беларускіх школ ад школьнае ўлады.

Уся акцыя ўва ўсіх кірунках на школьным фронце павінна нарэшце быць нагароджана пасьпехам, толькі гэтую акцыю трэба безперастанку мэтна і арганізавана вясьці.

Дык з нагоды новага школьнага году бярэмося за працу, за сьвятую справу, за беларускую асьвету!

Культурнік.

## Кангрэс работніцкіх прафэсыянальных саюзаў.

У Парыжы адбыўся работніцкі кангрэс прафэсыянальных саюзаў Амстэрдамскага Інтэрнацыяналу.

Было прысутнымі 165 дэлегатаў, якія зьяўляліся рэпрэзэнтатарамі $13^1/_2$ мільёнаў арганізаваных работнікаў 25 старонак.

Старшынстваваў на кангрэсе Англічанін Пэрсэль, староннік супрацоўніцтва з камуністычным Інтэрнацыяналам. Тэзы Пэрсэля аб „адзіным фронце“ кангрэс не прыняў, але-ж паўстала пагроза разлому ў самай Міжнароднай Работніцкай Фэдэрацыі. Частка ангельскіх і канадзкіх работнікаў выказала гэта.

Кангрэс прыняў рэзалюцыю, запрапанаваную генэральным сэкрэтаром Міжнароднай Работніцкай Фэдэрацыі Жуё, якая заклікае „ўсіх“ праціўнікаў вайны павялічыць дзейнасьць работніцкіх арганізацыяў на карысьць міру. Далей рэзалюцыя прызнае галоўным сродкам барацьбы работніцкае клясы проці вайны—гэнэральную забастоўку. На закачэньне рэзалюцыя дамагаецца ад усіх урадаў канкрэтных крокаў у справе разаружэньня.

На закачэньні паседжаньня кангрэсу адбыліся перавыбары сябраў міжнароднага бюро работніцкае фэдэрацыі. Выбранымі былі: Жуё (Францыя), Лейпарт (Нямеччына), Мэртэнс (Бэльгія), Модсэн (Швэцыя), Аігс (Англія) і Тэйерле (Вэнгрыя).

Па адрэсу Пэрсэля Лейпарт заявіў, што пасьля ўсяго таго, што здарылася, Пэрсэль ня можа лічыць на веру ад кангрэсу.

## Пасьля жэнэўскай канфэрэнцыі.

Жэнэўская канфэрэнцыя трох дзяржаваў—праваліласа. Загубілі яе нязгода паміж Англіяй і Зл. Шт. Амэрыкі што да ўваружэньняў на моры. У сувязі з гэтым паўстае Саюз між Англіяй і Японіяй. Японія адразу пачулася на сілах, бо запрапанавала кітайскім абодвум Чангам, каб яны аддалі ёй Манчжурыю і Манголію, а таксама пратэктарат над часткаю Кітаю, якая находзіцца пад дыктатураю паўночнага Чанга.

Англія таксама распачала актыўную палітыку адносна зблізжэньня з Францыяй і Італіяй, што не падабаецца Нямеччыне. Дзеля гэтакіх падзеяў на сусьветным форуме палітыкі некаторыя газэты ўжо намецілі два лагеры концэнтрацыі сіл, а іменна: быццам Англія, Японія, Францыя і Італія створаць саюз, а Нямеччына, Савецкі Саюз і Злучаныя штаты Паўночнай Амэрыкі прыдуць да паразуменьня, якія створаць працівагу першай групіроўцы. На колькі праўдзіва гэта, пакажа будучына, цяпер-жа мы відзім, што ані Англія, ані Зл. Шт. Паўн. Амэрыкі ня трацяць веры і жаданьня ўва ўзаімнае паразуменьне і шукаюць яго.

Ангельскі прэм'ер Бальдвін паехаў у Амэрыку дзе пабачыцца з амэрыканскімі дзеячамі і пагутарыць напэўна аб справах паразуменьня.

Амэрыканскі прэзыдэнт Кулідж намеціў ужо новую канфэрэнцыю, а тымчасам, пакуль суд, дык узяліся за „дзела“, бо ужо стараюцца, каб пабудаваць некалькі ваенных караблёў.

Дык вось якія адбываюцца пературбацыі сярод дужых нашае плянэты!...

## Водгукі канфэрэнцыі Беларускага Сялянскага Саюзу.

Усё-такі характэрна, што Беларускі Сялянскі Саюз зьяўляецца арэхам, які ніяк ня могуць раздавіць ані Паўлюкевіч, ані Луцкевіч. А тое, што яны сіляцца гэта зрабіць, дык найлепей сьведчаць інсынуацыі „Нашае Праўды“ і „Беларускага Слова“ аб канфэрэнцыі Б. С. С., якая нядаўна толькі што адбылася.

На гэтым пункце, дык абодва варожыя нам кірункі пакіраваліся да аднэй мэты, да мэты „зьліквідаваць“ Беларускі Сялянскі Саюз. І нават выкарысталі аргумэнты адзін другога, толькі прытасавалі іх неяк па рознаму: „Наша Праўда“ пастаралася Беларускі Сялянскі Саюз залічыць да буржуазіі, а „Бел. Слова“ залічыла Беларускі Сялянскі Саюз да камуністых... Як бачыце—розніца аграмадная!... Дзе-ж праўда?

Разумеецца, што праўда—ні там і ні тут і нават не па сярэдзіне, а далёка наперадзі. Беларускі Сялянскі Саюз, арганізацыя—чыста сялянская, якая мае абасноваую праграму і залічыць яе да ніякіх недарэчнасьцяў нельга. А калі робяць гэта праціўнікі арганізаваннасьці беларускага сялянства па сваей тэндэнцыйнасьці, дык гэта характэрызуе іх самых. Гэта выказвае іх варожасьць да сялянства, бо як-жа іначай назваць іх інсынуацыі?... Разумеецца, што „Бел. Слова“ прыпісваючы Бел. Сялянскамр Саюзу камунізм, як нелегальную ідэю, лічыць, што гэтым самым выкліча рэпрэсіі проці Саюзу з боку ўраду, а „Наша Праўда“ мае на мэце забіць веру ў беларускім сялянстве ў свае сілы, каб тагды выкарыстаць яго ў сваіх мэтах: у мутнай вадзе рыбку лавіць...

А яшчэ характэрней, што абодва вышэй названыя органы „беларускае“ прэсы, падхапілі сёе-тое з польскага эндэцкага „Dziennika Wileńskiego“, які таксама справіў хаўтуры па Беларускім Сялянскім Саюзе, але-ж зараз у адным з наступных нумараў пасьля пасьмертнага нэкралёгу, падняў трывогу, што Беларускі Сялянскі Саюз на канфэрэнцыі сваёй абгаварыў справу аб сялянскім кангрэсе, а гэта ўжо пагражае польскай дзяржаве, ізноў прыпісаўшы ўсёй справе камуністычную ахварбоўку.

Калі канфэрэнцыя ня дасьць нічога рэальнага, дык усё-ж такі яна зьяўляецца карыснаю, а гэта ў тым сэнсе, што памагла выявіць ворагаў і прыяцелёў Беларускага Народу. Найбольш заядлымі з ворагаў аказаліся: „Беларусы“ „Нашае Праўды“, „Беларускае Слова“, ды польскія эндэкі.

Да прыяцелёў можна сьмела залічыць Украінскі Сялянскі Саюз, які ў сваім органе „Сялянскі Шлях“ выказаў веру ў сілу Беларускага Народу і задаваленьне з арганізаваннасьці яго—з мабілізацыі тэй сілы...

Дык вось, што напісаў украінскі „Сялянскі Шлях“:

„24 ліпня ў Вільні адбылася краёвая канфэрэнцыя Беларускага Сялянскага Саюзу.

У прасторным памешканьні пры Завальнай вуліцы № 6, сабраліся дэлегаты Беларускага Сельсаюзу бадай што з усіх паветаў Заходняе Беларусі,—сяляне і вясковая інтэлігенцыя.

Саля была ўдэкаравана зеляньню і беларускімі нацыянальнымі адзнакамі.

За сталом прэзыдыуму быў вялікі бела-чырвона-белы сьцяг (беларускі нацыянальны сьцяг) з вышытым па чырвонаму падпісам „Беларускі Сялянскі Саюз“.

Канфэрэнцыю адчыніў прывітальнаю прамоваю пасол В. Рагуля. На старшыню канфэрэнцыі выбрана гр. Юхневіча, сэкрэтарстваваў гр. Сьвістун.

Пасьля адчытаньня прывітаньняў з розных канцоў Зах. Беларусі, слова для прывітаньня канфэрэнцыі ўдзелена ўкраінскаму дэлегату Галоўнага Сэкрэтарыяту У. С. А. Сялянскага Саюзу паслу П. Васыньчуку. Сябры канфэрэнцыі спаткалі прывітальную прамову нашага дэлегата громам воплескаў і энтузіястычнымі окрыкамі „Няхай жыве братні Украінскі Сялянскі Саюз, няхай жыве вольная аб'яднаная Ўкраіна“.

У добрым настроі вельмі дзелавіта канфэрэнцыя працягнулася ад раніцы аж да 5 гадз. па паўдню з перарывам для працы камісіяў.

Канфэрэнцыя закончылася магутным сьпевам беларускага нацыянальнага гімну „Ад веку мы спалі і нас разбудзілі, мы знаем што трэба рабіць...“

## „Знаменіе“ часу.

Неяк ужо гэтак здараецца, што сьвет што небудзь ды найболей цікавіць ці трывожыць. Нядаўна ўвагу ўсяго сьвету захапілі атлянтыцкія пералёты амэрыканцаў, а цяпер вось трывожыць новае „знаменіе“ часу.

Газэты адзін раз ужо падавалі, што быццам сьмяротны асуд над анархістымі Сакко і Ванцэцьці выкананы, аднак-жа гэта была ня праўда, бо яны да гэтых часоў жылі.

Анархісты Сакко і Ванцэцьці па нацыянальнасьці Італьянцы, якія пражывалі ў Амэрыцы і сваею дзейнасьцю захапілі работнікаў. У 1920 годзе амэрыканская паліцыя западозрыла іх у забойстве і рабунку, а прысяжныя прызналі іх вінаватымі і суд выдаў сьмяротны асуд, аднак-жа справа цягнулася да гэтых часоў і толькі цяпер губэрнатар штату Мачасузэта пастанову суду зацьвердзіў, а гэтакім парадкам кара сьмерці асуджаных Сакко і Ванцэцьці павінна адбыцца гэтымі днямі. Проці гэтага горача запрэтаставаў увесь культурны сьвет, а пераважна работнікі. У Амэрыцы здарылася некалькі тэрорыстычных актаў. Тэрорысты кінулі бомбу ў Нью-Іорку на чугункавай станцыі і некалькі чалавек сьмяротна паранілі.

Чым кончыцца справа няведама... Падрабязны агляд справы пастараемся даць пасьля аканчальных яе вынікаў.

*Сяляне! Запісвайцеся у Беларускі Сялянскі Саюз!*

# З жыцьця Польшчы.

### Вось якая справядлівасьць.

Ўрад рыхтуецца выдаць аднаразавую дапамогу урадоўцам. Свае пагляды на справу мы ўжо выказалі ў папярэднім нумары, дык цяпер хочам успомнуць некалькі дэталяў. Перадусім на гэтую справу дзяржава затраціць 45 мільёнаў злотых, а па другому самы падзел выглядае дзівачна. Той хто атрымоўвае болей, а знача лепш можа жыць, дык ізноў дастане большую запамогу, а той хто меней атрымоўвае і запраўды жыве паўгалодным, дык і дастане „нэндзу“. Вось і цыфры, няхай яны гавораць: самотны ўрадовец першае катэгорыі на правінцыі (не ў Варшаве) атрымае запамогі 754 зл. 44 гр., а працаўнік 16 кат. атрымае толькі 37 зл. 10 гр. Дык вось якая сацыяльнае справядлівасьць у Польшчы!

### Стараньні аб скліканьне Сойму.

1 і 2 г. жніўня адбыліся нарады польскіх соймавых клюбаў аб дамаганьні скліканьня Сойму. Дамаганьне ад ураду на скліканьне Сойму падпісалі сацыялісты і эндэкі, а таксама некаторыя „Вызваленцы“ і паасобныя паслы іншых партыяў. Думаюць, што Сойм зьбярэцца ў палове верасьня.

### Выбары самаўрадаў у Галіцыі.

У самаўрады ня толькі ў валасныя, але-ж і ў меставыя пераважнаю большасьцю прашлі Украінцы, за імі жыды, а палякі асталіся ў меншасьці. Гэта вельмі трывожыць Палякоў. У сувязі з гэтым пры пасярэдніцтве прэсы польскія партыі задаюць адны другім наганы ды дакоры.

### Каму яны памагаюць.

Польская дырэкцыя страховак (Ubiezpieczeń wzajemnych) прызнала выдаць безпаваротныя пазычкі гэтакім польскім установам, якім віленскі адзел ужо пачаў і выплачываць: Польская школьная мацеж—1000 зл., Польскае Т-ва Прыяцелеў Навукі—1000 зл., Студэнская Бурса—1000 зл. і г. д. ну, а Беларускім?

Гэтакім як Паўлюкевіч і Умястоўскі (Бѣлоруссы—Białorusini), ды на гэтакую працу, як дэфэнзыўная, дык таксама запамога ёсьць, але-ж запраўдным Беларусам і на пашырэньне беларускае культуры, дык нічога німа.

## БЕЛАРУСЫ ЗАГРАНІЦАЮ.

Па дадзеным петраградзкай статыстыкі ў Петраградзе цяпер знаходзіцца 14521 чалавек Беларусаў.

Гэта вельмі добрая праява, што Беларусы, нават будучы ў расейскай масе не забываюць сваю нацыянальную прыналежнасьць.

14521 чалавек гэта-ж сярэдняй вялікасьці беларускае павятовае места, а знача асяродак не маленькі!...

# СЭРВІТУТЫ.

(Працяг. Гл. №№ 57 і 59 „С. Н.“).

*Арт. 32.* Праект прымусовае ліквідацыі сэрвітутаў апрацоўвае ацэначная камісія ў гэтакім складзе:

А) У характары старшыні — зямельны камісар, яго заступнік ці асоба, дэлегаваная акруговым зямельным урадам.

В) Па адным прадстаўніку ад кожнае стараны, або іх заступнікаў, вызначаных з асобаў не заінтэрасаваных у справе (ч. 3 арт. 12).

Пры апрацаваньні праекту могуць браць удзел рэчазнаўцы (спэцыялісты), пакліканыя павятовым зямельным урадам на прапанову камісіі (п. 2).

*Арт. 33.* Калі староны, або адна з іх, у працягу 14 дзён ад часу атрыманьня завядамленьня павятовага зямельнага аддзелу, не назавуць прозьвішчаў сваіх прадстаўнікоў і заступнікоў з адрэсам іх і згодаю на прыняцьце паўнамоцтваў, дык права апрацаваньня праекту аб ліквідацыі сэрвітутаў належыць зямельнаму камісару, яго заступніку, ці дэлегату акруговага зямельнага ўраду.

*Арт. 34.* Зьмяніць прадстаўнікоў ці іх заступнікаў з камісіі можна толькі тагды, калі на гэта згодзяцца абедзьве староны пры адначасным вызначэньні іншых асобаў на іх месца з назначэньнем іх адрэсу і згоды на прыняцьце паўнамоцтваў.

*Арт. 35.* У выпадку, калі два паседжаньні камісіі не дадуць пажаданых вынікаў з прычыны атсутнасьці сябраў камісіі ці іх заступнікаў паміма таго, што яны аб гэтым былі павядомлены, дык зямельны камісар або яго заступнік можа распусьціць камісію, аб чым павінен паведаміць староны і сябраў камісіі; тагды ўжо праект апрацоўвае ён сам, яго заступнік ці дэлегат акруговага зямельнага ўраду.

*Арт. 36.* Праект павінен быць апрацаваны згодна з правіламі гэтага распараджэньня на падставе нормаў у ім вызначаных, ці адносінаў ліквідаваных сэрвітутаў пасьля зазнаямленьня з прапановамі і пажаданьнямі station аў (п. 1).

Праект павінен зьмяшчаць:

А) Падрабязны выказ віду і абшару ліквідаваных сэрвітутаў.

В) Ацэнка непасьвісковых сэрвітутаў і ўжыткаў, выдзеленых як вынаграджэньне за лясныя сэрвітуты, а таксама выказаньне прынцыпу адносінаў.

С) Падрабязны выказ роду, абшару і палажэньня названых у п. b) ужыткаў, калі роўначасна не праводзіцца аб'яднаньне грунтаў (арт. 29), ці не выказваецца вынаграджэньне гатоўкаю (грашыма) з падрабязным матывам тасаваньня гэтакага вынаграджэньня (п. 2).

*Арт. 37.* Пры ліквідацыі сэрвітутных пасьвішчаў у лясох, заросьлях ці на зарослых багнісках прынцыповую норму вынаграджэньня за сэрвітут для ўсіх галінаў уласнасьці, з уважэньнем аднак-жа далейшых пастанаўленьняў гэтага артыкулу, зьяўляецца $1/8$ частка абшару, на якім той сэрвітут можа быць праўна выкарыстаны, калі гэтая $1/8$ частка не перавышае палавіны абшару надзельных грунтаў уласнасьці, у праціўным разе—абшар роўны палове надзельных грунтаў тых уласьнасьцяў (п. 1).

Калі $1/8$ частка абшару, на якім сэрвітут (пасьвішча) можа быць праўна карыстаны, зьяўляецца меньшым ці роўным $1/4$ частцы агульнага абшару надзельных грунтаў усіх уласьнікаў, дык уласьнікі тыя разам, як вынаграджэньне за ліквідаваны сэрвітут (пасьвішча) атрымоўваюць абшар які раўняецца $1/4$ частцы іх надзельных грунтаў, але-ж ня болей як $1/2$ таго абшару, на якім сэрвітут можа быць праўна выкарыстаны (п. 2).

Калі абшар, на якім сэрвітут (пасьвішча) можа быць праўна выкарыстаны, зьяўляецца некалькі разоў большы за агульны абшар надзельных грунтаў усіх галінаў уласьнасьці, дык тагды выказанае ў ч. I аснаўное вынаграджэньне за ліквідаваны сэрвітут павінна быць павялічана залежна ад таго, колькі разоў абшар (пасьвішча) зьяўляецца больш за абшар надзельных грунтаў, а іменна: пры абшары пасьвішча большым ад абшару надзельных грунтаў:

ад 2 да 3 разоў уключна выдзяляецца абшар, які раўняецца да 65 проц., абшару надзельных грунтаў;

вышэй 3 да 4 разоў уключна выдзяляецца—да 80 проц. абшару надзельных грунтаў;

вышэй 4 да 5 разоў уключна выдзяляецца—100 проц. абшару над. гр;

вышэй 5 да 6 разоў уключна выдзяляецца 120 проц.;

вышэй 6 да 7—140 проц.<br>
„ „ 7 „ 8—160 „<br>
„ „ 8 „ 9—180 „<br>
„ „ 9 „ 10—200 „

(п. 3).

Пры ўстанаўленьні абшару, выдзеленага як вынаграджэньне за сэрвітуты ў межах, выказаных у табліцы ў ч. 3, ацэначная камісія сэрвітутаў і акруговая зямельная камісія па

